
ULTIMATE
SPIDER-MAN
ISSUE
32
ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОПЕЦ
.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
СУЧАСНЫ ЧАЛАВЕК-ПАВУК #32 (2000) ПЕРАКЛАД І АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
BENDIS
BAGLEY
THIBERT
MARVEL


ММ... АЛЁ? ГЭТА ДЖЫНДЖЭР СТЭЙСІ?
ТАК... ТАК, ДОБРЫ ВЕЧАР.
Я – МЭЙ ПАРКЕР.
МОЙ ПЛЯМЕННІК... НЕ, НЕ, МЫ НЕ ЗНАЁМЫ.
МОЙ ПЛЯМЕННІК ВУЧЫЦЦА Ў АДНЫМ КЛАСЕ З ВАШАЙ ДАЧКОЙ.
ТАК. Я... Я НЕ ВЕДАЮ, ЦІ ПАВЕДАМЛЯЎ ВАМ ХТО-НЕБУДЗЬ, АЛЕ...
ТАК, НУ, Я... ШКАДУЮ АБ ТЫМ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ВАШЫМ МУЖАМ.
Я МАЛА ВЕДАЛА КАПІТАНА СТЭЙСІ, АЛЕ ЁН ЗДАВАЎСЯ МНЕ ДОБРЫМ ЧАЛАВЕКАМ... МММ...
НУ...
Я ТЭЛЕФАНУЮ ВАМ ТАМУ, ШТО ВАША ДАЧКА, ГВЕН, ЗАСТАЛАСЯ Ў МЯНЕ...
ЯНА... НЕ...
ЯЕ БАЦЬКА ПАПРАСІЎ, КАБ Я ПРЫГЛЯДЗЕЛА ЗА ЁЙ, ПАКУЛЬ ЁН БЫЎ ЗА ГОРАДАМ, І...
Я ХАЦЕЛА Б ВЕДАЦЬ, КАЛІ ВЫ ЗА ЁЙ ПРЫЕДЗЕЦЕ?
ВАШАЙ ДАЧКЕ ПАТРЭБНА МАЦІ... І ЯНА...
АЛЕ ВЫ ЖА ЯЕ МАЦІ!
ЯНА СТРАЦІЛА...
...Я НЕ РАЗУМЕЮ, ЧАМУ ВЫ...


Я... СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ВЫ ГАВОРЫЦЕ ГЭТА АД РОСПАЧЫ І НА САМОЙ СПРАВЕ ВЫ НЕ ТАКАЯ, БО ЎСЁ СКАЗАНАЕ ВАМІ ПРОСТА ЖУДАСНА...
...АЛЁ?
ОХ...
Я Ж КАЗАЛА...
...ГЭТА НЕМАГЧЫМА.




Я... Я ГЭТА ЗРАБЛЮ!
Я ЗАБ'Ю ГЭТУЮ ГЛУПУЮ ДЗЕЎКУ! ПРАМА ВА ЎСІХ ПЕРАД ВАЧАМІ!
Я ЦЯБЕ НЕ БАЮСЯ... НЕ **БАЮСЯ**!
ТЫ... УХАДЗІ АДСЮЛЬ! ВЯРТАЙСЯ ТУДЫ, АДКУЛЬ ПРЫЙШОЎ!
ТЫ... ПАЛЕЗЕШ ПА ГЭТАЙ СЦЯНЕ І ЎЙДЗЕШ АДСЮЛЬ!
ІНАЧ... Я... Я ЗРАБЛЮ ГЭТА!
ТЫ ЗРАЗУМЕЎ?!
Я...


ZZAAAPP
АААААААААААА!
THWAP
ІДЗІ СЮДЫ, ЗАБОЙЦА!
О, НЕ! ААААА!
ТЫ СЁННЯ ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА! ТЫ ЗАБІЎ ПАЛІЦЭЙСКАГА! ДОБРАГА ЧАЛАВЕКА!
ТЫ ВЕДАЕШ ПРА ГЭТА? ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ТЫ НАРАБІЎ?
SMACK


ТЫ – ЗАБОЙЦА!
ТЫ АПРАНУЎ МОЙ КАСЦЮМ І ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА!
І ТЫ ДАМАЎ, ШТО Я БУДУ СЯДЗЕЦЬ І НІЧОГА НЕ РАБІЦЬ?
ААА! АДПУСЦІ МЯНЕ! АААА!
НАВОШТА ТЫ ГЭТА РОБІШ? ДЗЕЛЯ ГРОШАЎ? ДЗЛЯ СЛАВЫ?
НАВОШТА?
ТЫ САМ ГЭТА ВЕДАЕШ?
ЛЮДЗІ ДУМАЮЦЬ, ШТО ГЭТА Я ЗАБІЎ ЧАЛАВЕКА! ЛЮДЗІ ДУМАЮЦЬ, ШТО Я – ЗЛОДЗЕЙ!
ЯНЫ БОЛЬШ НЕ ДАВЯРАЮЦЬ МНЕ! І ЧАМУ? ЧАМУ?
THWACK!


МФФ... ЗНІКНІ!
SPACK
THAP
ДОБРА, Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ЛЯСНУТЫ. Я МАГУ ГЭТА ЗРАЗУМЕЦЬ.
Я ПРОСТА... ВАЗЬМІ ГРОШЫ! ДАВАЙ, БЯРЫ ІХ!
Я БАЧЫЎ ЛЮДЗЕЙ НАКШТАЛТ ЦЯБЕ ПА ТЭЛЕВІЗАРУ. ЯНЫ ГОЙСАЮЦЬ ПА ГОРАДУ І БЯРУЦЬ УСЁ, ШТО ДРЭННА ЛЯЖЫЦЬ!
THWIP
НЕ! ААА! ПЕРАСТАНЬ!
THWAP
ЯНЫ ПАВОДЗЯЦЬ СЯБЕ ЯК ПЕРСАНАЖЫ ФІЛЬМАЎ! БЫЦЦАМ ЯНЫ МОГУЦЬ РАБІЦЬ УСЁ, ШТО ПАЖАДАЮЦЬ
Я СУР'ЁЗНА... ЗАБЯРЫ ГРОШЫ. ПРОСТА ВАЗЬМІ ІХ!
ЧАМУ ТЫ ВЫБРАЎ МОЙ КАСЦЮМ?
ПЕРАСТАНЬ, ЧАГО ТЫ... ОЙ!!
ЧАМУ Я?!
Я-Я-Я... Я ДУМАЮ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ КРУТА.
НІЧОГА АСАБІСТАГА! КЛЯНУСЯ!


К-КАЛІ ЛАСКА... Я – ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОВЕЦ!


«ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОПЕЦ»?
ЗВЫ-ЧАЙНЫ... ХЛОПЕЦ?!
ЦЯПЕР УВЕСЬ СВЕТ ЛІЧЫЦЬ МЯНЕ ЗАБОЙЦАЙ!
ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ СЯДЗЯЦЬ ТУТ, ДРЫЖАЦЬ ЗА СВАЁ ЖЫЦЦЁ... МОЛЯЦЦА ЗА ТОЕ, КАБ ВЯРНУЦЦА ДАДОМУ ЖЫВЫМІ... ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО «ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОПЕЦ» ВЫРАШЫЎ ВЫКРАСЦІ ТРОХІ ГРОШАЎ!
БО «ЗВЫЧАЙНЫ ХЛОПЕЦ» ЗАХАЦЕЎ СТАЦЬ СЛАВУТЫМ, АПРАНУЎШЫ МОЙ КАСЦЮМ!!!
НЕ...
ШТО ПЕРАШКАДЖАЕ МНЕ ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ?
ШТО?
АААAК!
ЯКАЯ МНЕ РОЗНІЦА? НЯЎЖО ТЫ ГЭТАГА НЕ ЗАСЛУГОЎВАЕШ?
ААААААААК...
АХ.
АХ.
ААААА...




*АД САПРАЎДНАГА ЧАЛАВЕКА-ПАВУКА


ПРАКЛЁН!
Я НЕ КАНТРАЛЯВАЎ СЯБЕ. ЗУСІМ!
Я НАВАТ НЯ ВЕДАЎ, ШТО МАГУ ТАК РАЗ'ЮШЫЦЦА! БЫЦЦАМ ШТОСЬЦІ ВЫРВАЛАСЯ З МЯНЕ ВОНКІ!
Я... НЕ РАЗУМЕЎ, ШТО РАБЛЮ!
Я МОГ ЗАБІЦЬ ЯГО... ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕКА СВАІМІ РУКАМІ. І КІМ БЫ Я ТАДЫ СТАЎ?
Я НЕ МАГУ АБ ГЭТЫМ ДУМАЦЬ, АЛЕ Я ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ УСЁ МАГЧЫМАЕ... КАБ НЕ ЗДЗЯЙСНЯЦЬ УЧЫНКІ, НАВАТ ЗДАЛЁК ПАДОБНЫЯ НА ГЭТЫ.
Я ПАВІНЕН ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЦЬ, НАВОШТА Я ГЭТА РАБЛЮ. Я...
О-ОЎ...
ЦЁЦЯ МЭЙ?
НАМ ТРЭБА ПАГАВАРЫЦЬ...
ПРА ГВЕН...


ГВЕН...
ПРАБАЧ, ШТО АБУДЗІЛА, АЛЕ...
МММ... ПРАБАЧЦЕ...
НУ ШТО ТЫ...
ПРЫВЕТ, ГВЕН...
МММ... ЯНЫ СХАПІЛІ ТАГО ХЛОПЦА. ХЛОПЦА Ў КАСЦЮМЕ ЧАЛАВЕКА-ПАВУКА.
СХАПІЛІ ЯГО.
КУДЫ ТЫ ЗБІРАЕШСЯ?
НУ. Я... ЛІЧУ, МНЕ ТРЭБА ПАЙСЦІ ДАДОМУ, КАБ УЗЯЦЬ НЕШТА.
І... У МЯНЕ ЁСЦЬ ЦЁЦЯ Ў МІНЕСОЦЕ, СЯСТРА МАЁЙ МАЦІ...
...Я НІКОЛІ ЯЕ НЕ БАЧЫЛА, І НЕ СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ЯНА ВЕЛЬМІ ЎЗРАДУЕЦЦА СУСТРЭЧЫ СА МНОЙ...
А ІНШЫЯ СВАЯКІ?
НІКОГА.
УСЕ БАБУЛІ І ДЗЯДУЛІ ПАМЕРЛІ. У НАС БЫЛА НЕВЯЛІКАЯ СЯМ'Я.
ЯК ТЫ ДАБЯРЭШСЯ ДА МІНЕСОТЫ?
НЯ ВЕДАЮ.
Я НАВАТ НЯ ВЕДАЮ, ДЗЕ ГЭТА ЗНАХОДЗІЦЦА.



ПАСЛУХАЙ, У НАС ЁСЦЬ ПРАПАНОВА.
МЫ З ПІТАРАМ... АБМЕРКАВАЛІ ГЭТА.
МАБЫЦЬ, ТВАЯ МАЦІ ЯШЧЭ ПРЫЕДЗЕ ЗА ТАБОЙ. Я НЕ ВЕДАЮ, БО НЕ ЗНАЁМА З ЁЙ.
АЛЕ Я ВЕДАЮ, ЯК ГАТАВАЦЬ НА ТРОХ...
...І НАМ НЕ АБЫЯКАВА, ШТО З ТАБОЙ БУДЗЕ...
ТАМУ, МЫ ЛІЧЫМ, МАБЫЦЬ, ТЫ ЗАСТАНЕШСЯ Ў НАС.
НУ, ВЕДАЕШ...
...КАЛІ ТЫ ХОЧАШ...
АААААХ...
УСЁ Ў ПАРАДКУ.
АААААХ. ЯНЫ ЗАБІЛІ МАЙГО ТАТУ!
УСЁ ДОБРА...
УСЁ ДОБРА...


ТАКІМ ЧЫНАМ, Я НЯ ВЕДАЮ... НАПЭЎНА, МЫ ЗАБЯРОМ ЯЕ РЭЧЫ, А ПОТЫМ – ПАГЛЯДЗІМ.
ТАК-ТАК...
ШТО?
ШТО?
НІ... НІЧОГА.
Я ЛІЧЫЛА, УСЁ БУДЗЕ ІНАЧ... АЛЕ Я ПАМЫЛЯЛАСЯ.
АБ ЧЫМ ТЫ ГАВОРЫШ?
ПРА НАС!
УСЁ АДБЫВАЕЦЦА НЕ ТАК, ЯК Я ЖАДАЛА!
ГЭТА ЎСЁ ТАМУ, ШТО ГВЕН ПЕРАЕХАЛА ДА МЯНЕ? АБ ЧЫМ ТЫ?
НЕ...
НЕ, ПРОСТА...
Я ТАБЕ НЕ ВЕРУ!

ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО Я ПРАЧЫНАЮСЯ СЯРОД НОЧЫ...
КОЖНУЮ НОЧ...
З КРЫКАМІ!
ТЫ НЕ ВЕДАЎ ГЭТА?
МНЕ СНЯЦЦА КАШМАРЫ, ПІТАР!
ЖУДАСНЫЯ КАШМАРЫ ПРА ТОЕ, ШТО ТЫ ЗАГІНУЎ!
ТЫ... ТЫ ЗАГІНУЎ... ЦІ Я ЗАГІНУЛА!
КОЖНУЮ НОЧ!
Я КОЖНЫ РАЗ НАНОВА ПЕРАЖЫВАЮ ТОЙ ВЫПАДАК НА МАСТУ!
Я ЎВЕСЬ ЧАС ПЕРАЖЫВАЮ ТОЙ МОМАНТ... ТОЙ МОМАНТ, КАЛІ МЯНЕ КІНУЛІ... З МАСТА КВІНСБАРО!
ЧАСАМ... БЫВАЕ, ШТО Я ПРАЧЫНАЮСЯ СЯРОД УРОКА!
Я СЯДЖУ Ў КЛАСЕ... І РАПТАМ ПАЧЫНАЮ ПАДАЦЬ!
СПАЧАТКУ... ГЭТА БЫЛО КРУТА.
Я ДУМАЛА, ШТО МОЙ ХЛОПЕЦ – СУПЕРГЕРОЙ.
О, БОЖА, МОЙ ХЛОПЕЦ...
АЛЕ ПІТАР... АДНОЙЧЫ ТЫ ЗАГІНЕШ З-ЗА ГЭТАГА...
ТЫ ЗАГІНЕШ З-ЗА СВАЙГО ГЛУПАГА КАСЦЮМА.
І Я ВЕДАЮ, ШТО НЕ ЗМАГУ ЗАСЦЕРАГЧЫ ЦЯБЕ АД ГЭТАГА.
Я НАВАТ І ЎЯВІЦЬ САБЕ НЕ МАГЛА, ШТО НЕЙКІ ЗЛОДЗЕЙ СКІНЕ МЯНЕ З МАСТА... ЦІ ШТО МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА АДМЫВАЦЬ ТВАЮ КРОЎ З АДЗЕЖЫ, КАБ МАЦІ НЕ ЗАЎВАЖЫЛА ЯЕ.
ХТО-НЕБУДЗЬ ЗАБ'Е ЦЯБЕ.
І Я НЕ ПЕРАЖЫВУ ГЭТА.
АХ...


ГЭТА... НЕ.
ЧАМУ ТЫ РАПТАМ ПРА ГЭТА ПАДУМАЛА? РАНЕЙ ТЫ НІЧОГА НЕ КАЗАЛА!
ГЭТА ЎСЁ З-ЗА ГВЕН!
ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ, ПІТАР! ТАК! ТАК!
У ДАДАТАК ДА ТАГО, ШТО ЧАЛАВЕК-ПАВУК ПЕРАТВАРЫЎ НАША ЖЫЦЦЁ Ў КАШМАР...
У ДАДАТАК ДА ГЭТАГА, ТЫ ЯШЧЭ ЖЫВЕШ... ЖЫВЕШ!!! З ГЭТАЙ ЛЯЛЬКАЙ!
І ЯНА ЗАКАХАНАЯ Ў ЦЯБЕ, ПІТАР!
НЕ...
ТАК! Я НЕ ДУРА!
Я ВЕДАЮ!
БОЖА!
У ЯЕ ТОЛЬКІ ШТО ЗАГІНУЎ БАЦЬКА!
АЛЕ МЫ Ў ГЭТЫМ НЕ ВІНАВАТЫ!
МАЯ МАЦІ...
...МАЯ МАЦІ СЯДЗІЦЬ НА КУХНІ І ГОД ЗА ГОДАМ ПРЫКІДВАЕЦЦА, ШТО НЕ ВЕДАЕ ПРА ЗДРАДУ БАЦЬКІ...
...ХАЦЯ ЎЖО ЎСЕ ВЕДАЮЦЬ ПРА ГЭТА.
ЁН НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ ДАМОЎ НА НАЧ... А РАНІЦАЙ ВЯРТАЕЦЦА П'ЯНЫ І АД ЯГО НЯСЕ, ЯК АД БАРДЭЛЯ!
А ЯНА ПРЫКІДВАЕЦЦА, ШТО ЎСЁ Ў ПАРАДКУ!!!
І... Я ДАЛА САБЕ СЛОВА, ШТО СА МНОЙ ГЭТАГА НЕ ЗДАРЫЦЦА!
Я ДАЛА САБЕ СЛОВА, ШТО Я НІКОЛІ НЕ БУДУ ГУЛЯЦЬ У ГЭТУ ДУРАЦКУЮ ГУЛЬНЮ, НЕ СТАНУ КАЗАЦЬ САБЕ, ШТО Ў МЯНЕ ЎСЁ ДОБРА, КАЛІ ГЭТА НЕ ТАК!
Я НЕ МАГУ РАБІЦЬ ГЭТА, ПІТАР!
Я НЕ ДУРА!


НУ, Я НЕ ВЕДАЎ ПРА ТВАЙГО БАЦЬКУ.
ПІТАР, ТЫ НАВАТ НЕ ПЫТАЎ АБ ГЭТЫМ?
ТЫ НІКОЛІ НЕ ЦІКАВІЎСЯ МНОЙ.
МЫ РАЗМАЎЛЯЛІ ТОЛЬКІ ПРА ЦЯБЕ І ТВОЙ КАСЦЮМ.
І СПАЧАТКУ ГЭТА БЫЛО ПАЦЕШНА...
АЛЕ ЯК Я МОГ ВЕДАЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА МІЖ ТВАІМІ БАЦЬКАМІ, КАЛІ ТЫ МНЕ НІКОЛІ ПРА ІХ НЕ РАСКАЗВАЛА?
Я Ж НЕ ЎМЕЮ ЧЫТАЦЬ ДУМКІ!
ВЕДАЕШ...
...СПРАВА НЕ ТОЛЬКІ Ў ГВЕН.
У НАС УСЁ НЕ ТАК.
Я **КАХАЮ** ЦЯБЕ, ПІТАР.
АЛЕ З МЯНЕ ХОПІЦЬ.
І ШТО?
МЫ РАССТАЕМСЯ?




# У 2018

## НА COMICSBY.BY ЗБОРНІК НУМАР 2




## НАСТУПНЫЯ НУМАРЫ НА COMICSBY.BY







